УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Бацкель, А. І.**
**Б17** Квадратурынавы маёнтак / Аляксандар І. Бацкель. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 121 с.

**ISBN**

Трэцяя кніга з жыцця ў ізаляцыі, у якой адбываецца пашырэнне сцен маёнтка, спроба ўцёкаў і эксперыменты з формай. «Квадратурынавы маёнтак» складзены са сто аднаго тэксту, кожны тэкст мае свае абмежаванні колькасці словаў – іх не больш за сто на кожнае апавяданне.

Кніга даследуе наваколле, пачуцці, стыхіі, асэнсоўвае падарожжы.

Рэкамендаваная да чытання па адной старонцы на дзень.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN**

## ЗЬМЕСТ


| | |
|---|---|
| квадратурын | 5 |
| каханьне | 7 |
| кіндэр | 9 |
| бабулькі | 10 |
| закладка | 11 |
| вада | 13 |
| біт | 14 |
| чаканьне | 15 |
| забарона | 16 |
| цень | 17 |
| блытаньне | 18 |
| стол | 19 |
| плястыка | 20 |
| вочы | 21 |
| сьмерць | 22 |
| чорны | 23 |
| гарнітур | 24 |
| жарт | 25 |
| падарункі | 27 |
| пунктуальнасьць | 28 |
| вусы | 29 |
| чытаць | 31 |
| настрой | 32 |
| спаць | 33 |
| кансэрвант | 35 |
| каханьне | 36 |
| адносіны | 37 |
| сочыва | 39 |
| нэктарын | 41 |
| сьвет | 42 |
| спам | 43 |
| ператварэньне | 45 |
| содавая | 46 |
| блізкасьць | 47 |
| эвалюцыя | 49 |
| стары | 50 |
| рыба | 51 |
| перапрацоўка | 52 |
| дзеці | 53 |
| мышка | 55 |
| кажух | 56 |
| рыгор | 57 |
| раство | 58 |
| своечасова | 59 |
| рост | 61 |
| абавязаньні | 62 |
| глікадзін | 63 |
| салата | 65 |
| сакрэт | 66 |
| школа | 67 |
| шашлыкі | 68 |
| рукі | 70 |
| курс | 71 |
| фобія | 72 |
| тунэль | 73 |
| адкрыцьцё | 74 |
| камандзіроўкі | 75 |
| мабільныя | 76 |
| елкі | 77 |
| рэнтген | 78 |
| комплексы | 79 |
| праца | 80 |
| суп | 81 |
| рэфрэн | 82 |
| сумка | 83 |
| танец | 84 |
| валасы | 85 |
| кірмаш | 86 |
| ежа | 87 |
| кантэйнэр | 88 |
| аплата | 89 |
| гендэр | 91 |
| фікус | 92 |
| дальнабойнік | 93 |
| космас | 94 |
| крадзяжы | 95 |
| дзевяностыя | 96 |
| сьвятло | 97 |
| пазногці | 98 |
| стыхія | 99 |
| сьцены | 100 |
| таксі | 101 |
| дзед | 102 |
| фільм | 103 |
| цуд | 104 |
| сындром | 105 |
| сябры | 106 |
| сабачка | 107 |
| могілкі | 108 |
| сымбалі | 109 |
| ісьляндзец | 110 |
| стачком | 111 |
| рукавічка | 113 |
| fatum | 114 |
| котка | 115 |
| вокны | 116 |
| не-існаваньне | 117 |
| жабрачкі | 118 |
| немец | 119 |
| грошы | 120 |
| vieta | 121 |

# КВАДРАТУРЫН

у мяне маёнтак невялікі, і да гэтага часу ў ім не было асобнага працоўнага пакоя. я надумаў будаваць, але будаўніцтва – мая фобія. Сігізмунд Кржыжаноўскі падказаў мне выйсьце – мазь «Квадратурын».

я прыгатаваў сумесь: тоўчаныя п’яўкі, чых-трава, маяран, цытрыны, журавіны, косткі абрыкосаў, попел спаленых кніг, атрамант старой асадкі, вазэлін, перапяліныя яйкі.

зьмесьціва было адкапанае зь зямлі праз тры гады, і я ў гэты самы вечар, кульнуўшы пару кілішкаў, намазаў усе чатыры сьценкі і столь кладоўкі квадратурынавай мазьзю.

цяпер у мяне асобны кабінэт, сьцены якога разышліся ў бакі на сорак мэтраў. я ў пакоі пасеяў траву ды ірляндзкі мох, паставіў стары стол, крэсла і ноўтбук.

## КАХАНЬНЕ

спачатку я зьеў сьцірку на алоўку, потым сам аловак, а потым сшытак і закладку.

зьеў кардонкавую пяцёрку, матузкі і гузікі з кашулі.

зьеў палову шкарпэткі і стос фанцікаў ад жуек.

зьеў плястыкавую лінарку, якая давяла мяне да бальніцы.

я акрыяў і зьеў тузін дажджавых чарвякоў і стос казявак з носу.

зьеў формачку зь пяском і процьму травы.

я ня мог ня есьці, бо адносіны патрабавалі ад мяне быць мужным. бо яна глядзела на мяне ў дзіцячым садочку такімі прыўкраснымі вачыма і так прыгожа прамаўляла: «Ромка, калі ты мяне кахаеш, то зьеж гэтую асадку».

і я еў, бо кахаў.

## КІНДЭР

можна лёгка ўявіць маю клясу – усе шэра-сінія, у калготах, з аднолькавымі заплечнікамі й пэналамі.

Косьцік быў адрозным, бо ўсе ведалі, што яго маці працуе на тэлебачаньні. хлопец выглядаў недагледжаным, брудным і неахайным ды распавядаў нам казкі: «я ўчора страляў з лука», «езьдзіў на спорткары», «выйграў у ціры».

мы ўсе ведалі, што ён ня хлусіць, бо пэрыядычна прыносіць на першы ўрок альбо магічную скрынку «Мілкі Ўэй з канструктарам Лега», альбо тузін «Кіндэраў» на зайздрасьць іншым.

а мы, усе астатнія, зьбіралі фішкі, фанцікі і рабілі лодачкі з кары і пісталеты з галінак, бо нават адзін кіндэр – звышсьвята, нечаканае, як Армагедон.

# БАБУЛЬКІ

у горадзе С. не было прыпынку перад прыватным сэктарам, цягнік вёз адразу ў цэнтар. бабулькам з ускраін было цяжка ісьці пехатою тры кілямэтры да станцыі.

вырашылі зрабіць сваю станцыю, бліжэйшую.

ляціць электрычка – і раптам перад самым горадам бабуля на рэйках! добра, што своечасова адскочыла.

празь дзесяць мэтраў – яшчэ адна!

другая! трэцяя! чацьвертая!

машуць, жэстыкулююць!

на пятай бабульцы цягнік спыніўся, і тая пашыбавала да адчыніўшыхся дзьвярэй, дастала з-за сьпіны вядро, перакуліла яго і спачатку стала на вядро, а ўжо потым на першую прыступку.

пакуль бабулька нумар пяць прарабіла ўсё гэта, у астатнія вагоны пачалі прыходзіць з розных бакоў іншыя бабулькі зь вёдрамі.

гэта працягвалася год, кожны дзень. пакуль мясцовыя ўлады не паставілі плятформу і шыльду – станцыя «Моладзевая».

## ЗАКЛАДКА

у мяне зьявілася новая фобія. кожны раз, калі я раскрываю кнігу, якую чытаю, натыкаюся на закладку: фотаздымак Кафкі і пералік яго раманаў – падарунак ад сябра, які ён набыў у музэі Кафкі ў Празе.

кожным разам, калі бачу гэтую закладку, мне становіцца сорамна, што я напісаў сёньня дзьве старонкі раману, і гэтыя старонкі – вымучаныя, нязграбныя і выглядаюць сіроткамі.

я адкладаю чытаньне і сядаю за стол пісаць, але ў выніку нічога не пішу, бо таксама неяк няёмка, што вось я пабачыў Кафку і мяне панесла пісаць.

вар'яцтва. давялося схаваць закладку ў кнігу, якую ўжо прачытаў, каб яна не засмучала мяне.

# ВАДА

памыцца без вады магчыма.

у Афрыцы мыюцца мачою вярблюда.

нанайцы мыюцца сваім потам, пакуль таньчаць каля вогнішча ў кажухах, а потым прамоклыя кажухі скідаюць і адзяваюць сухое.

ёсьць спосаб ачысьціць скуру глінай...

гэта ўсё прыходзіла мне да галавы, калі я назіраў, як з майго крана ліецца кіпень і больш нічога.

вярблюда ў мяне няма.

таньчыць у кажуху – ніякага жаданьня.

і я ня быў настроены, каб у двары шукаць гліну, таму паехаў у краму і набыў дзьве велізарныя бутлі вады.

па дарозе ўзгадаў, што ў старажытныя часы эгіпецкія жанчыны наносілі на галаву кашэчыя сцакі і так сядзелі пад сонцам, асьвятляліся.

# БІТ

васьмібітны чалавек мае роўна восем рысаў. ён размаўляе кароткімі, вельмі кароткімі сказамі, мае адзін погляд на жыцьцё, чытае толькі кнігі пра мянтоў, ходзіць толькі адным шляхам: дом – праца – крама/бутэрбродная – дом, п’е і есьць толькі тое, да чаго звык, і нічога іншага альбо новага не дадае. васьмібітны чалавек глядзіць толькі адзін тэлеканал і чытае толькі адну газэту, мае адно меркаваньне пра будову сьвету, як і шануе толькі аднаго прэзыдэнта. васьмібітны чалавек жыве ў краіне, дзе канстытуцыя і законы ўсё яшчэ захаваныя на дыскеце.

# ЧАКАНЬНЕ

гэта як быццам ты доўга клеіў мадэль самалёціка і засталася адна дэталь да завяршэньня.

гэта калі ты сядзіш перад экранам кампутара і праз сэкунду пачнецца фільм любімага рэжысэра, на які ты чакаў два гады.

гэта калі ты бяжыш зь мячом і разумееш, што ня толькі пас быў трапным, але ёсьць усе шанцы забіць вырашальны гол, і яшчэ сэкунда, галкіпэр пасьлізнуўся, а наперадзе пустая брама.

гэта калі ты атрымліваеш доўгачаканы ліст і пачынаеш ірваць капэрту, ведаючы, што ўнутры цябе чакае прыемнасьць.

так я сяджу аголены ўвечары на ложку і чакаю, калі яна выйдзе з ваннага пакою, бо шуму вады больш не чуваць.

# ЗАБАРОНА

калі я ўзяў яе за руку, яна сказала, што на гэта існуе табу. яе прыватнае табу, як у Палінэзіі. я сказаў, што паважаю прыдуманыя ёю законы. але табу на рукі выглядае як забарона на дэсэрт: навошта мне яе вусны, калі яны цалкам даступныя, і мне непатрэбны яе грудзі, бо, да таго як іх крануцца, мне неабходны яе рукі. яна сказала, гэта прынцыпова, бо абяцала сваёй маці, што калі ўжо возьме кагосьці за руку, то гэта будуць толькі яе муж і дзеці.

і мы вырашылі павянчацца, бо рукі яе былі маленечкія, малочнага колеру, з кашэчымі кіпцюрыкамі, і да ўсяго пахлі цытрынамі.

# ЦЕНЬ

старажытныя габрэі ведалі, што калі ў чалавека зьнікае цень, то жыць яму засталося ня больш за трыццаць дзён.

нас было чацьвёра, і мы зьбіраліся кожны першы дзень месяца толькі дзеля адной мэты – адмераць цені. мы прыкручвалі да швабры ліхтарык, уключалі яго і спрабавалі зрабіць так, каб на ўсіх нас аднолькава сьвяціла, каб нашыя цені з аднаго боку падоўжыліся.

мінулым разам у аднаго з нас цень быў удвая карацейшы, ён адмахваўся, казаў, што мы ня так сьвецім і кпім зь яго, але мы хутка пачалі піць і забыліся на наш сьмешны рытуал.

празь месяц мы сустрэліся ўжо ўтрох, але ніхто нават і не прапанаваў ізноў памераць цені... глупства ўсё гэта...

# БЛЫТАНЬНЕ

Вацлаў пачаў блытаць цёплае зь мяккім. дакранецца да імбрыка, а той – мяккі, паднясе да твару падушку, а тая цёплая. здавалася б, гэта ніяк не магло паўплываць на яго жыцьцё, але справа ў тым, што праз гэтую дробязь, праз гэтую сьмешную акалічнасьць ён стаў непадобным да іншых – у яго зьявілася па шэсьць пальцаў на нагах і скура страціла валасы, стала абсалютна чыстая і гладкая, як у дзіцёнка. і калі ён кідаў лёд у кубачак з гарбатаю, ён хацеў, каб тая стала цяплейшай, і піў ён кіпень з-пад крану, і таму твар у яго быў чырвоны-чырвоны... Вацлаў больш не карыстаўся мяккай туалетнай паперай, бо тая для яго была зусім ня мяккаю, і еў ён толькі халодную ежу, бо тая падавалася цёплаю, і спаў ён днём, і пачаў жыць далёка ад людзей.

# СТОЛ

пад маім старым сталом засталіся жыць зжаваныя жуйкі.

старыя налепкі нуль-першых «За Свабоду» і футбалісты разам з аголенымі фотамадэлямі.

пад сталом засталіся сьведкамі першых пякельных крананьняў толькі засохлыя сэплі.

і там, пад сталом, засталіся першыя дарослыя заляцаньні і спатнелыя далоні, разгорнутыя падручнікі, падрыхтаваныя да экзамэнаў шпаргалкі ды вусьціш, што цябе пабачаць, калі ты рукаблудзіш, бо ў суседнім пакоі бацькі.

## ПЛЯСТЫКА

страшна ўявіць, але ў Бэвэрлі Хілз зьявіўся маньяк, які палюе толькі на адмысловых жанчын.

ён высочвае сваіх ахвяр каля клінікі плястычнае хірургіі і нападае толькі на тых, каму грудзі рабіў доктар Стывэнс.

гэта такая своеасаблівасьць доктара Стывэнса, касмэтычнага хірурга, які вар'яцее ад сваёй працы, я сказаў бы – шалее.

## ВОЧЫ

«мы былі такія бедныя, што я вымушаная была зімою насіць кеды і спартовую чырвоную куртку. кожную раніцу я бегла на працу. так сагравалася і выдавала на спартсмэнку.

у нас кожны дзень ежа была аднолькавая: бульба, цыбуля і шматок жоўтага сала. я на старым ровары выяжджала са сваім хлопцам за горад у лес кахацца, бо мы здымалі аднапакаёўку на пецярых.

але дамоў, у Карэю, нават і думкі няма вяртацца, бо Менск пры любым раскладзе больш прывабны і пэрспэктыўны».

распавядала мне мая сяброўка, а я куляў кілішкі і слухаў.

на двары быў сьвежасьпечаны Міленіюм.

у мяне былі грошы, каб забясьпечыць гэтае дзяўчо.

# СЬМЕРЦЬ

у бальніцы пачалі паміраць пацыенты пасьля апэрацый. і менавіта ў пятніцу, увечары.

доўгі час ніхто ня мог разабрацца.

субота, раніца – у блёку рэабілітацыі пасьля апэрацыі зноў хтосьці адышоў у лепшы сьвет.

прааналізавалі, прасачылі, даведаліся.

вечар пятніцы, у адзін з пакояў заходзіць жанчына сталага ўзросту, крыху поўная, перад сабою завозіць прылады прыбіральшчыцы.

ходзіць акуратна па пакоі, працірае і так стэрыльны пакой, стараецца не пабудзіць пацыента.

потым дастае з разэткі вілку, устаўляе бязгучны партатыўны пыласмок і хуценька вакол зьбірае пылінкі.

а ў гэты час пацыент сыходзіць у іншы сьвет, бо апарат падтрымкі жыцьцядзейнасьці і вэнтыляцыі лёгкіх адключаны – прыбіральшчыца працуе.

# ЧОРНЫ

я ведаю, як выглядае рак. ён глыбока чорны, матавы, бясконцы і паглынае астатнія колеры. такі колер належыць чорным дзіркам у космасе.

мама доўга хварэла, напрыканцы мы зарэгістраваліся пры хосьпісе і засталіся дома. быў жнівень.

у сакавіку мы паехалі за горад і адкапалі тры бярозкі.

я бегаю пад вокнамі першага паверха. мама глядзіць на мяне з пакоя і рукой паказвае, куды садзіць бярозкі, худая, стомленая, але абсалютна моцная і нязломленая.

калі яе ня стала, акурат на Вялікдзень, бярозкі ўчарнелі. засталіся жывымі знутры, але звонку іх ахінула вусьцішная чарната. счарнелае лісьце апала, і яны цяпер стаяць самотнымі, бо былі патрэбныя толькі маме.

# ГАРНІТУР

калі яна пачынала на яго крычаць і сварыцца апошнімі словамі, ён ціха сыходзіў у ванны пакой.

спачатку сядаў на ўнітаз, потым прымаў душ, чысьціў зубы, галіўся і прычэсваўся.

надзяваў новыя майткі і саколку, потым – белую новую кашулю, далей ён апранаўся ў свой фірмовы чорны гарнітур і нацягваў лякаваныя чорныя чаравікі.

выходзіў вонкі, сядаў перад домам і чакаў, калі ў яго ад гэтай жудаснай бабы і яе сварак спыніцца сэрца і ён памрэ, але будзе гатовы сустрэць сьмерць, каб ніхто потым не клапаціўся пра яго.

сядзеў на лаўцы, акуратна курыў па ветры, каб попел не ляцеў на яго.

# ЖАРТ

сярод маіх любімых нацый габрэйская – самая любімая. яе варта шанаваць і любіць нават не за гістарычны эпас, Біблію і процьму іншага. дастаткова толькі паслухаць, як і з чаго жартуюць габрэі.

толькі габрэй можа шчыра ўсьміхнуцца з Халакосту альбо расказаць анэкдот пра Гітлера. і толькі ў габрэя гэта атрымаецца адначасова невымоўна трагічна і сьмешна.

бо калі зазіраеш у пашчу сапраўднай вусьцішы, выратавацца і перамагчы можна, толькі зрабіўшы гэтую вусьціш сьмешнай.

дарэчы, расейцы цяпер таксама шмат жартуюць. «камэдзі клабы» трашчаць ад анэкдотаў і мініятур, але гэта зусім іншыя жарты – гэта жарты дзеля таго, каб здавалася, што ўсё файна.

# ПАДАРУНКІ

звычайна, калі нараджаецца дзіцё, да яго адразу зьбіраецца чарга наведвальнікаў: бабулі, дзядулі, цёткі, дзядзькі, далёкія і блізкія сваякі, сябры. немаўля атрымлівае процьму ласкі, увагі ды падарункаў.

і падарункі працягваюць зьяўляцца кожны тыдзень і месяц. бацькі мала што купляюць маламу, акрамя пампэрсаў, бо трэба яшчэ знасіць і скарыстаць усё падоранае.

амаль кожны з нас прыходзіць у гэты сьвет, аточаны падоранымі кашулькамі, пінэткамі, споднім, цацкамі ды процьмай іншага, і пакуль мы расьцем, пакрысе зношваем і вырастаем з таго, што назапасілася ў шафе. і калі апошняя рэч зьнікае і сваякі забываюцца ня толькі на падарункі, але і на наш дзень нараджэньня, мы абнуляемся і пачынаецца дарослае жыцьцё.

# ПУНКТУАЛЬНАСЬЦЬ

адзін мой стары знаёмы быў чалавекам пэдантычным – калі ўжо за штосьці браўся, даводзіў гэта да шалёнага ідэалу і хворай выкшталцонасьці. ён цаніў у знаёмых толькі свае якасьці – пунктуальнасьць і пэдантычнасьць.

ён лічыў, што калі чалавек спазьняецца – гэта кепскі чалавек.

і ён вельмі злаваўся, калі па тэлевізары кіно пачыналася ня роўна а дзясятай гадзіне, як паводле анонсу, але на тры хвіліны пазьней – праз рэкляму.

пунктуальнасьць – рыса джэнтэльмэнаў, таму, калі доктар сказаў яму, што жыць засталося роўна тры месяцы, ён разгарнуў арганайзэр, адлічыў ад 22 красавіка тры месяцы і на даце 22 ліпеня паставіў крыжык. і пайшоў дамоў жыць далей.

# ВУСЫ

я адрасьціў вусы.

было цяжка: яны мяне раздражнялі, расьлі толькі проста, і тырчалі, і лезьлі ў нос.

цяпер у мяне вусы закручваюцца па бакох і жывуць сваім жыцьцём.

вусы па-іншаму зьвязваюць мяне з асяродзьдзем, я стаў лепей адчуваць і адрозьніваць пахі ды цяпер прачынаюся, паводзячы носам па паветры, як драпежнік...

Ю. прыехала, будзе паркавацца ў двары, пад'едзе праз тры, дзьве, адну сэкунду, і я чую, як машына запыняецца, утульна, мякка, падмінаючы пад гумовыя колы спачатку асфальт, потым маленькія каменьчыкі зь пяском... вось пярэднімі коламі яна заяжджае на газон у двары маёнтка.

вусы адчуваюць пах сьвежай прымятай травы.

# ЧЫТАЦЬ

ня так даўно я адмовіўся ад алькаголю.

калі п’еш усе 360 дзён у год, выпадкова пакідаючы пару дзён цьвярозымі, губляеш пачуцьцё рэальнасьці, адчуваньне жыцьця, мозг здраджвае, інтэлект падае.

раней я мог чытаць раманы праз раз і доўга марудзіў, выбіраючы аўтара.

а тут мой арганізм як падмянілі, ён усмоктвае інфармацыю з хуткасьцю сьвятла. я ўзяў «Уліса», якога пачынаў трыццаць разоў, і за тры вечары прачытаў, я разгарнуў апавяданьні По, ад якіх раней засынаў, і не загарнуў, пакуль не дачытаў.

сёньня я скончыў чытаць “Сагу пра Фарсайтаў”, эпапэю, якая вісела на маіх плячах, пачатая ў шаснаццаць год.

## НАСТРОЙ

бывае такое дзіўнае падвоенае адчуваньне, якое раздражняе цябе толькі першыя сэкунды, а потым ты забываесься на кепскі настрой. гэта калі:

цябе разьвесяліў сябра, каханы альбо каханка і ты застаўся злосным, але ўжо сьмяесься. альбо на вуліцы белы сьнег і сонца залаціць яго паверхню, ты такі сумны ідзеш, мружысься і вымушаны ўсьміхацца ад гэтай яркасьці, бляску і сонечнасьці. а бывае, табе так пагана, што ты вось ужо сабе і плачаш, але сабачка побач з табою так ужо сьмешна гуляецца з тваёй шкарпэткай, што ты вымушаны засьмяяцца.

# СПАЦЬ

падлеткам я спаў, пакуль цела не пачынала ныць, і пасьля абеду быў вымушаны ўставаць хаця б у прыбіральню.

юнаком я спаў паўсюль – на лекцыях, у грамадзкім транспарце...

сталеючы, я пачаў заўважаць, што пачынаю ўсё менш спаць. і тады мяне супакоіла бабуля, яна неяк прамовіла ўвечары, калі мы разам зь ёй сядзелі ля вогнішча на хутары:

«вось з кожным днём я ўсё больш радуюся жыцьцю і магчымасьці бачыць ранішнія промні сонца, і кожны дзень я разумею, што мне ўсё менш жыць засталося, і таму сплю як мага меней, каб яшчэ больш пажыць».

і цяпер я хачу ўсё менш і менш спаць у гэтым сьвеце. і разумею, чаму я так хачу.

# КАНСЭРВАНТ

Юпітэр, а для сяброў проста Юпі, не ўжывае садавіну і гародніну, бо папросту не адчувае ні смаку, ні густу, ні карысьці.

ён шчыра рабіў спробы, і не аднойчы, бо так прасіла маці: трэба струшчыць сьвежы яблычак, каб жалезам падсілкавацца.

ён праз пакуты згрызаў яблык, смакам блізкі да вільготнае шкарпэткі.

пасьля таго як яму стукнула дваццаць, ён канчаткова згубіў сувязь са здаровай ежай і адкрыў для сябе парадыз ды раскошу смакаў, у якія шчыра і незваротна закахаўся, калі ўпершыню раскаштаваў знакаміты і непаўторны Е221, распушчаны ў сарбаце калію і бэнзанаце натрыю.

## КАХАНЬНЕ

у мяне была сяброўка – габрэйка, нацыяналістка, люта ненавідзела мусульманаў. я ніколі зь ёю не заводзіў гутарку на «гэтую» тэму.

яна эміґравала да старэйшага брата ў Ізраіль, там ён пазнаёміў яе са сваім блізкім сябрам.

нечакана для сябе гэтая габрэйка-нацыяналістка закахалася да бяспамяцтва... і калі яны праз год вырашылі ажаніцца, ён распавёў ёй, што насамрэч не габрэй, а мусульманін, хаваў гэта праз каханьне да яе.

ёй стала сорамна. яна да гэтага амаль штодзень абуралася мусульманскім сьветам. ён ніколі не пярэчыў. часам пагаджаўся, што бываюць вар’яты.

неяк яна мне патэлефанавала і гадзіну плакала ў слухаўку. ёй было няёмка.

Каханьне выратуе Блізкі Ўсход.

## АДНОСІНЫ

кожным разам, як сьвятло трапляла ў расколіну сьцяны, гэта выглядала як сэксуальнае дзеяньне.

сьвятло пранікала ў самае нутро расколіны, паступова, пакрысе заваёўваючы кожны ейны мілімэтар.

расколіна чакала шторанішніх візытаў з захапленьнем, як каханка чакае палюбоўніка...

сьвятло было вялікім і пагардлівым, таму не заўважала расколіну і пранікала паўсюль, куды магло пранікнуць.

## СОЧЫВА

я быў малым падшыванцам, калі мая бабуля, сабраўшы ў садзе вялікія букеты ружаў і абрыкосаў, на кухні варыла сочыва.

яна брала старымі, артрытнымі рукамі бутоны белых і чырвоных ружаў, мяла іх скручанымі пальцамі й кідала ў вялікі рондаль.

напяваючы сабе пад нос, яна наразала сакавітыя абрыкосы, якія расьціскаліся пад пальцамі і атачалі прастору салодкім пахам, засыпала абрыкосы, дадавала цукар, запальвала вагонь на старой нямецкай пліце і сядала зь перапэцканаю смакатой драўлянай лыжкай у руцэ на стары скасабочаны зэдлік.

пра што разважала альбо марыла мая бабулька, пакуль сочыва награвалася і булькала?

# НЭКТАРЫН

дзесяць год таму я сядзеў на дыеце: на працы – грэйп і кава з зэфіркай.

я не пакутаваў, злосным не хадзіў, працаваў сабе мірна. пакуль на працы не зьявілася дзяўчына, шалёна закаханая ў нэктарын.

дзяўчо гэтае было непрыгожым, як на мяне, занадта поўным, і нос у яе быў вялікі, як у мумітроля, ды меў завялікія ноздры з кароткімі чорнымі валаскамі. і пальцы былі такія тлусьценькія, з потнымі далонькамі.

я плянаваў дыету разбавіць нэктарынам і дыняй, але кожны дзень на працу гэтая дзяўчына брала кіляграм сакавітых пладоў і на працоўнай кухні трушчыла і прыцмоквала. носам, вуснамі, рукамі па локці пэцкалася ў салодкую вадкасьць і муркала: «я абажаю нэктарын! гэта проста аргазм!»

# СЬВЕТ

Пад сьветам шмат задніц і дзірак…
*Ален Гінзбэрг*

сьвет складаецца з вэрбальных пачаткаў слоў, якія месьцяцца мэталічным сьмецьцем між нёбам ды языком.

сьвет – гэта другаснае… перапрацоўка таго, што ўпіхваецца бігмакам у рот.

сьвет – гэта этыёп, дохлы, схуднелы ад голаду й звар'яцелы ад місіянэрскае параноі.

сьвет – гэта ты, і ты, як і я, спрабуеш прыжыцца сярод мільёнаў жаданьняў і поту ў аўтобусах, набітых целамі працаўнікоў, якія, акрамя белага ды чырвонага напояў, нічога ня бачылі зь дзяцінства.

сьвет – гэта мядовы пернік, які так любяць замяняць садамазахісцкай пугай.

сьвет – гэта падлеткі, якія адчайна шукаюць адно ў аднаго эрагенныя кропкі.

сьвет – гэта ён – патлаты валацуга Дхармы, які мерае ходнік намулянымі ступакамі.

# СПАМ

у Фэйсбук піша мне Люцыя, піша натхнёна, што нарэшце знайшла мяне.

я не магу ўспомніць, дзе і пры якіх абставінах пазнаёміўся з гэтай амэрыканкай.

прагледзеў яе профіль, фотаздымкі, пачытаў статусы і прыйшоў да высновы, што, мабыць, знаёмы праз падарожжы альбо стыпэндыю ў Эўропе.

вырашаю далей перапісвацца... «як справы? чым займаесься?» шмат даведаўся пра яе, шмат распавёў пра сябе.

мінула два дні, у суботу ўвечары яна – пра Скайп...

я ў адказ: «навошта Скайп?»

а яна: «I am so hot now. Let me do it with you online!»

і я зразумеў, што спам, як і віртуальныя сэкс-паслугі, сягнуў новай ступені эвалюцыі.

## ПЕРАТВАРЭНЬНЕ

аднойчы я прачнуўся бязь цела.

вочы скаціліся з падушкі да языка, які варушыўся сярод россыпу зубоў. сэрца білася і пырскала паўсюль крывёю, страўнік ляжаў нерухома. я не знайшоў сваёй пячонкі, можа, яна згубілася ў кішках...

усё, што засталося ў маім жыцьці, – вакно каля ложка і дрэва за вакном.

крывяныя сасуды, жылы і нэрвы – раскіданыя па пакоі каляровымі ніткамі. зь імі гуляецца котка.

жыцьцё непрадказальнае, асабліва пасьля нэрвовага разладу.

# СОДАВАЯ

давялося мне працаваць з адной дзяўчынай. вельмі прыгожай і такой чыстай, натхнёнай і акуратнай. бачыць яе было дастаткова, каб адчуваць, што гэты дзень чароўны.

у дзяўчыны было каханьне – ўіскі.

хлопец яе зарабляў дастаткова, і яна ўвесь свой заробак выдаткоўвала на алькаголь.

піла яна кожны вечар так, што раніцай яе немагчыма было пазнаць.

я першым бачыў яе, бо мы прыходзілі за дзьве гадзіны да астатніх, і гэтага часу хапала, каб яна пасьпявала прывесьці сябе ў належны дзявочы стан літрам колы.

здаецца, любая содавая рабіла цуд зь яе зьнешнім выглядам – яна быццам піла сьвятую ваду, з кожным новым глытком пахмельле відавочна зьнікала і рысы анёла пачыналі праступаць на яе твары.

## БЛІЗКАСЬЦЬ

самыя трывалыя адносіны між мужчынам і жанчынаю – зьнешняя няроўнасьць.

мужчына можа быць зусім непрыгожым, лапавухім і азызлым, а яна – вельмі нават страйнюткаю мадэльлю! і наадварот: яна – зусім нязграбная, ссутуленая, з мажным носам, а ён – як з рэклямнай вокладкі.

у мяне ў сябрах шмат такіх маладых пар, якія жывуць разам, а ты на іх глядзіш – і дзівісься. як? як такое бывае? хіба яны не заўважаюць, як адрозьніваюцца адно ад аднаго?!

але адразу ўзгадваюцца Серж Гінзбур і яго жанчыны, Сід Вішэс і ягоная Нэнсі, Курт Кабэйн і яго дурная жонка, і ты разумееш, што гэта – ідэальная гармонія ў жыцьці.

# ЭВАЛЮЦЫЯ

ёсьць эвалюцыя наадварот, калі малады мужчына ці жанчына рухаюцца насустрач узросту ў адваротнай прагрэсіі:

з кожным новым крокам іх упэўненасьць у жыцьці расьце, яны ператвараюцца ў апосталаў справядлівасьці, галоўнымі пакупнікамі бліжэйшых маркетаў і дарадцамі кожнаму знаёмаму, што есьці і як рабіць так, каб добра выпаражняць кішачнік. маладыя людзі рэгрэсуюць у бок суцэльнай і празрыстай для іх відавочнасьці ўсяго сутнага: двор, машына, кусты пад вакном, смажанае сала, кава і тлусты кавалак варанай кіўбасы – і абсалютная ўпэўненасьць, што ўсё стабільна і як мае быць, бо хутка будуць новыя грошы і мы нарэшце зноў дакрочым да заробку ў 500$.

## СТАРЫ

мінула дзесяць год, як я шчыльна сябраваў з адной маладой сям'ёй. сяброўства нашае падзяляў алькаголь і толькі. яны абодва былі старэйшыя за мяне на два гады, для маладосьці гэта мела нейкае значэньне.

і вось учора я сутыкнуўся зь імі. выглядалі абодва як альканаўты-бамжы, нават здагадацца, якога яны полу, было цяжка. спынілі мяне на вуліцы, пачалі ахаць і охаць, нагадваць мне пра былыя часы, а потым жонка яго прамовіла: «слухай, ну ты стары стаў! жах!»

і гэта я стары!? вегетарыянец, які кінуў курыць шэсьць год таму і ўжывае алькаголь толькі па ўік-эндах!

## РЫБА

абед. прачнуўся, галава баліць, магу толькі ляжаць і глядзець у столь.

нехта настойліва пазваніў у дзьверы, я, ледзь падняўшыся, пайшоў адчыняць.

на парозе яна. ня бачыў яе два месяцы. абышоўся па-сьвінску, кінуў яе, нічога не сказаўшы, проста зьнік.

упусьціў яе ў кватэру, а сам пацягнуўся ў ложак, бо стаяць было цяжка.

увайшла ў пакой, спачувальна паглядзела на мяне. села на ложак. дакранулася да маіх ног, і павольна, але настойліва, пачала рух уверх.

праз хвіліну я кончыў.

пакуль нацягваў майткі, яна сышла.

на стале засталася капэрта з цыдулкай: «мы з табою больш ня разам»

## ПЕРАПРАЦОЎКА

узяўшы з сабой апавяданьні, раздрукоўкі – трыста аркушаў паперы, – я прыйшоў на мост і пусьціў усё на вецер.

калі аркушы апусьціліся на ваду, штосьці пайшло на дно, частка паплыла далей.

праз хвіліну я пераскочыў парэнчы.

я паплыў разам з аркушамі, якія яшчэ маглі трымацца на вадзе, хапаючыся за іх, пакідаючы ў кулаках размоклыя камякі.

павольна я выплыў з горада і, дабраўшыся да аднаго з фільтраў па ачыстцы рэк, патрапіў на сьмецьцеперапрацоўчую станцыю, і там, з тэкстамі, брудам і рэшткамі плястмасы, мяне перапрацавалі ў плястыкоўкі, відэльцы, лыжачкі, кардонныя скрынкі ды пакуначную паперу.

я цяпер больш карысны для грамадзтва.

# ДЗЕЦІ

гэта было ў часы вучобы, калі я здымаў кватэру ў сталіцы. кожны раз, калі выходзіў на гаўбец, я бачыў дзяцей, якія гайдаліся на круглых арэлях.

ад раніцы і да вечара круцяцца і сьмяюцца, звальваюцца, набіваюць гузакі. калі стамляюцца, клічуць у суседзкія вокны сяброў і бацькоў: «а Саша выйдзе?!»

я выходжу на гаўбец курыць і сумленна разважаю пра тое, як яны мне абрыдлі.

дзіцячы настрой забівае мяне. а я часам напіваўся, дык тады зранку, калі стаяў на гаўбцы, лямантаваў: «заткніце ўсе раты! дайце памерці ў цішыні!»

але лямантаваў моўчкі, бо не трэба маленькіх палохаць, яны яшчэ пасьпеюць спалохацца.

## МЫШКА

гэта было так.

я чакаў сябра ў адной запыленай друкарні. рабіць не было чаго, таму я разглядаў працаўнікоў, што сядзелі ў пакоі шчыльна адно да аднаго і былі заваленыя стосамі паперак, раздруковак, кардонак ды іншай непатрэбшчынай.

адзін стары і патлаты вярстальнік-дызайнэр зацікавіў мяне. ён сядзеў ссутулены і адным вокам трымаў нейкі мікраскоп гадзіншчыка. гэты гном так засяроджана корпаўся, што мяне гэта зачаравала.

я доўга б назіраў за ім, але тут пачуўся голас:

«ну хочаш, я табе пазычу сто тысяч і ты набудзеш сабе новую мышку?!»

«не, дзякуй, мне мая падабаецца, старая, з шарыкам...»

на стале «гадзіншчыка» ляжала прэпараваная старая мышка, дэталькі ад якой ён замілавана праціраў сьпіртам. я такія мышкі бачыў у эпоху Майкрасофт 98.

## КАЖУХ

у трэцяй клясе я пачаў насіць кажух.

кажух – жах дзяцінства, да мяне яго насіла як мінімум тры пакаленьні Бацкеляў, гэта мой сорам і здрада, сьмерць і вар’яцтва.

як толькі заканчваўся апошні ўрок, я альбо першым ляцеў у гардэроб, каб незаўважна зьбегчы дамоў сакрэтнымі сьцежкамі, альбо чакаў, калі ўсе разыдуцца, і апошнім выходзіў са школы.

я ня проста саромеўся, я баяўся, што за такі кажух на мяне павесяць крыўдную мянушку да канца жыцьця.

аднойчы я не пасьпеў першым зьбегчы, мяне паклікалі аднаклясьнікі, якія ішлі ў бок сьнежнай горкі катацца.

я граўся зь імі да позьняга вечара і ніводнага крыўднага слова не пачуў у свой бок.

# РЫГОР

да пятай клясы я быў самым сапраўдным батанам, я зьліваўся з колерам сьцен у школе, прымаў форму парт і зэдлікаў, нават выйсьці ў прыбіральню без дазволу ня мог, некалькі разоў пісаўся.

аднойчы рыгор, замест таго каб чарговы раз мяне пакрыўдзіць, абразіць, ударыць, намаляваў карыкатуру на маю маму і кінуў мне гэтую паперку на апошнім уроку.

па мяне кожны дзень прыходзіла мама, і яна ўбачыла наступнае: бяжыць рыгор у парваным гарнітуры па вуліцы, за ім бягу я і гуляю ў футбол ягоным партфэлем па брудным асфальце. у рыгора разьбіты нос.

мама не сварылася і не накарала. я перастаў быць батанам, атрымаў «незад.» за паводзіны, і мама больш не чакала мяне пасьля ўрокаў каля школы.

# РАСТВО

ніколі не было нам шчасьця на раство і новы год. заўжды здаралася штосьці самае горшае за год:

бацька шмат піў і яго прывозілі зьбітым і паламаным.

брат рэзаў сабе вены сярод гаражоў, да гэтага выпіўшы пяць бутэлек глікадзіну, а да гэтага пасварыўшыся зь дзяўчынаю. і мы ўсю ноч езьдзілі, шукалі яго ў прыёмных аддзяленьнях бальніц.

на раство мама даведалася, што ў бацькі ёсьць палюбоўніца, якая шле яму смскі.

мінула восем год, як на раство ў мамы бралі аналізы, а на новы год, роўна 31-га, пазванілі і сказалі: «трэцяя стадыя, праз два дні будзе тэрміновая апэрацыя».

усе гэтыя сьнежаньскія сьвяты заўсёды рыхтавалі мяне да горшага, каб потым, вымыўшы сьлязьмі сваё сэрца і душу, я мог пачаць жыць далей, з пакамечаным дзяцінствам на ссунутай сьпіне.

## СВОЕЧАСОВА

я ня ўмею быць пільным, ня ўмею быць уважлівым. падвесьці вынікі, вырашыцца на штосьці і зрабіць так, каб гэта сапраўды спрацавала, я ня здольны. даводзіцца чакаць, каб на адлегласьці разглядзець тое, што насамрэч было і як варта было б тое ці іншае выправіць, вырашыць, зрабіць. шкада, што патрэбныя час і адлегласьць.

заўсёды хочацца апанэнту адказаць адразу прыгожа і па сутнасьці і зрабіць важкую выснову ў жыцьці.

але толькі калі ты едзеш дадому, у галаве зьяўляюцца яскравыя і разумныя адказы ды ідэі наконт жыцьця і ўчынкаў, але вакол ужо нікога няма.

# РОСТ

добра, прыгадайце, калі ласка, сваю школьную спартовую залю і тое, як фізрукі строілі нас паводле росту.

больш прыніжальнага нават уявіць немагчыма... Ната, самая высокая ў нашай клясе, заўсёды ішла першаю і станавілася пад вясёлае ўлюлюканьне хлопцаў, пад абразьлівае «дылда». Ната ішла і валачыла ногі, ёй было зусім не да сьмеху.

альбо апошнія аднаклясьнікі і аднаклясьніцы... малыя ростам, тумбачкі... якіх ня бралі граць у валейбол і баскетбол.

і гэта ўжо ў школе нам прышчаплялі парасткі сэксізму, расізму і эўгенікі... а вы кажаце, што ўсё ідзе зь сям'і...

я быў самым шчасьлівым у пастраеньні, бо, як большасьць, заставаўся стаяць сярод сярэднярослых.

# АБАВЯЗАНЬНІ

позьні вечар, еду ў маршрутцы... сьпераду сядзіць мужчына, добра апрануты, сярэдняга веку... выпіўшы, у стане, калі разьвязваюцца язык і думкі.

на наступным прыпынку заходзіць маладая жанчына і становіцца каля яго, бо месцаў для сядзеньня ўжо няма.

мужчына аглядае жанчыну і прамаўляе:

«прабачце, а вы ня супраць заняцца са мною сэксам, без аніякіх абавязаньняў? проста дзеля задавальненьня, разбавіць самоту гэтага вечара?»

жанчына адмовіла і пастаралася адысьці ўглыб салёну...

на наступным прыпынку заходзіць дзяўчына, і мужчына прапаноўвае сэкс без абавязаньняў ёй... і зноў чуе адказ «не».

на жаль, давялося на наступным прыпынку выйсьці...

мужчыну абавязкова пашчасьціць трэцім разам.

# ГЛІКАДЗІН

быў такі час, калі глікадзін і тусін можна было набываць без рэцэптаў… а яшчэ былі такія дактары, якія за грошы выпісвалі рэцэпты.

што я магу сказаць, на гэтае сыропнае памаранчавае дно ўпаў не адзін мой сябра, і выкарасквацца і лезьці наверх было цяжка, нягледзячы на спушчаныя роднымі вяроўкі і лесьвіцы…

надоечы быў у гасьцях, жанчына скардзілася, што яе сын хварэе, кашляе моцна, дык у яго яшчэ галюцынацыі зьявіліся, трэці дзень бачыць кракадзілаў і плача… я заўважыў на тумбачцы баначку глікадзіну і даведаўся, што маці дае сыроп дзіцёнку сталоваю лыжкаю і амаль кожныя дзьве гадзіны.

перавышае дозу ў тры разы.

## САЛАТА

у навінах я часта натыкаюся на твар чалавека, які мне, мякка кажучы, ня вельмі падабаецца... я ведаю, што гэты чалавек не трымае ўладу ў сваіх руках, і ведаю, што ён, як і большасьць, часова на сваім месцы, але ён такі разьеты. ён так лянотна і тлуста аблізваецца на экране – проста кот у сьмятане!

я заўсёды ўяўляю, як ён дома ўвечары сядзіць у сваіх утульных сямейніках і начэплівае на відэлец салату з даляраў... сьвежанашынкаваны пакунак зялёных сотак, палітых аліўкавым алеем і выціснутым сьвежым лімонам...

я гляджу на яго, у галаве пульсуюць навіны пра жкг, пра новыя падаткі і пра курс даляра.

## САКРЭТ

гэта было нечакана, раптоўна, быццам моцны ўдар па галаве.

мы зь ім разам хадзілі да аднаго рэпетытара… рыхтаваліся здаваць іспыты ў «мэд».

я часта зь ім на выходных выпіваў, асабліва пасьля таго, як ён пачаў вучыцца на лячфаку, а я на гістфаку…

перад эміграцыяй у ЗША ён прызнаўся, што гей.

у гэты вечар мы ня шмат гутарылі, я думаў аб тым, чаму ён мне раней не сказаў пра гэта… і чаму я ніколі нічога за ім не прыкмячаў.

ён назаўжды застанецца для мяне сябрам, зь якім я дзяліў процьму алькаголю і сьмешныя, пахабныя юнацкія гутаркі.

# ШКОЛА

у школе мы рабілі наступныя рэчы: уключалі краны ў прыбіральнях на паўдня… кідалі ў лайно дрожджы… лавілі малых падшыванцаў і выстрыгалі ім плешыны на галовах… заляталі ў распранальні, выключалі сьвятло і харкалі ў розныя бакі – перамагалі тыя, на кім было найбольш сопляў… мы размалёўвалі парты і сьценкі… курылі на ўроках «ваеннай падрыхтоўкі»… зьдзекаваліся з трудавіка і гістарыцы… на ўроках расейскай літаратуры не хаваючыся пілі піва – давялі настаўніцу да бальніцы.

але цяпер адзін з нас – адвакат, другі – бізнэсмэн… трэці – хірург… а яшчэ ёсьць кандыдаты, пісьменьнікі, рэклямшчыкі… і ніводнага выдатніка сярод нас няма.

# ШАШЛЫКІ

1.

ведаеце, калі ў тваім дзяцінстве мандарыны толькі на новы год, а пра ікру ты нават ня чуў, то шашлыкі – гэта далікатэс, які быў дасяжны раз на паўгода, калі калолі кабана... то-бок адбіралася самае смачнае мяса, якое смажылі адразу, і бацька ад таго ж мяса адкладаў сакавіты кавалак, які мы, вярнуўшыся зь вёскі ў сталіцу, марынавалі адмыслова для лецішча.

гэта быў цэлы рытуал – марынаваньне. працэс нясьпешны, разважлівы і расьцягнуты на суткі. бацька вырашыў дадаць воцату, упершыню надаць старому рэцэпту новы смак...

у нас з братам сьліна ў роце пачала назапашвацца яшчэ перад сном, за дзень да таго, як мы будзем есьці.

2.

спаць было цяжка – чаканьне, пакуты, прадчуваньне.

я сур'ёзна, гэтае сьвята было раз на лета, калі мы смажылі ня жоўтае сала, але ласаваліся мясной смакатою... ды і што там ужо хлусіць, гэта былі цяжкія для ўсіх часы, часы беларускай

беднаты, галечы, таму для нас, дзяцей, часта абсалютна простыя на цяперашні час рэчы радавалі неверагодна.

і вось бацька дачакаўся вугалёў, расклаў вакол іх паламаныя цагліны, стварыў з лазы шампуры, нанізаў мяса, чаргуючы з цыбуляй…

і нас ахінуў магічны пах…

праз паўгадзіны ніхто з нас і першы кавалак ня здольны быў праглынуць.

3.

увесь гэты марынаваны цуд быў ператвораны ў стоадсоткавы воцат, бацька наўпрост дадаў яго туды столькі, што, акрамя яго, больш нічога не адчувалася…

першым выплюнуў мяса ў пясок бацька, бо я, брат і мама ўсё яшчэ працягвалі жаваць свае кавалачкі – у спадзеве, што зараз воцат зьнікне разам зь нясмачнаю сьлінай і мы рассмакуем мяккі і такі жаданы шашлык… але, паглядзеўшы на бацьку, да нас пачало даходзіць, што воцат нікуды ня зьнікне і сёньняшняе сьвята акурат скончылася яшчэ да таго, як мы прыехалі на лецішча.

што тут і казаць. бацька браў рукамі яшчэ цёплае мяса і кідаў яго ў розныя бакі… мама плакала, а мы з братам ладзілі пахаваньне рэштkаў шашлыка, аплакваючы яго дзіцячымі наіўнымі, празрыстымі сьлязамі.

# РУКІ

у мяне зьявіліся рукі... тонкія, блакітныя і зялёныя пражылкі на іх... рукі, якіх я ня бачыў шмат год... мае рукі ўбачыліся мне, такія ж, як і раней, у шнарах, спробах зрабіць тату, але яны цяпер схуднелі да таго часу, калі ў мяне было шмат спадзеваў ды імпэту жыць і працаваць.

і нешта такое радуе мяне ў дадзены момант, што я гатовы мяняць ня толькі лад жыцьця але і ногі, жывот, тоўсты твар...

у мяне зьявіліся мае рукі... мае сапраўдныя рукі, якія я баюся згубіць, бо гэта можа потым больш ня стаць напамінам альбо сэнсам, гэта можа зьнікнуць у быцьці.

# КУРС

я сур'ёзна, я ўжо працяглы час набываю толькі даляры, мае знаёмыя з Расеі ня верылі мне, калі я ім таксама казаў, каб усё пераводзілі ў даляры... рахункі і астатняе... цяпер яны бядуюць, бо згубілі больш за палову грошай, якія ляжалі ў рублях...

я ў снах бачу зялёныя паперкі. сплю і пакутую: гэта ж колькі грошай губляю праз рост курсу!..

надоечы набываў трыццаць даляраў у філіяле «Беларусбанку». запытаўся, колькі мне рыхтаваць да абмену беларускіх фанцікаў. мне адказалі:

«шэсьцьсот шэсьцьдзесят шэсьць тысяч беларускіх рублёў».

«ну канешне, лічбы такія ж жахлівыя, як і беларуская эканоміка!» – адказаў я.

# ФОБІЯ

калі я выкладаў, то сутыкнуўся з такімі незвычайнымі абставінамі:

адна студэнтка была вельмі пасьпяховаю... увесь першы сэмэстар яна вучылася за траіх, а потым не прыйшла ні на адзін з іспытаў зімою.

ад яе аднагрупніцы я даведаўся, што дзяўчына гэтак жа не здала іспыты ў школе (але бацькі «дасталі» ёй пасьведчаньне), і такім жа чынам гэтае дзяўчо кідае трэцюю вучэбную ўстанову.

справа ў тым, што яна шалёна баіцца здаваць іспыты, яе калоціць нават ад адной думкі, што давядзецца нэрвавацца і штосьці камусьці на адзнаку здаваць...

клясычны фройдаўскі прыклад... я, безумоўна, сьпісаў гэтую фобію на бацькоў... а дзяўчыну адлічылі летам.

# ТУНЭЛЬ

ёсьць штосьці невымоўна трагічнае і рамантычна-жудаснае ў назіраньні за сьмерцю.

гэта адначасова заварожвае, пужае і набліжае нас да пошукаў невядомага... прымушае нас дасьледаваць гэта і нават не міргаць, сачыць і спрабаваць раскрыць нейкія таямніцы... знайсьці сэнс і адказы Быцьця.

у кнізе Сьвятланы Алексіевіч прачытаў пра старога, які ў вёсцы не прапускаў ніводнай сьмерці, прыходзіў і ціха сядзеў у куце... назіраў... разважаў... быццам чорт. і пражыў шмат гадоў.

я тады ўспомніў сваю прабабку Гэлю, якая пахавала дзясяткі сваякоў, дажыўшы да ста трох год.

# АДКРЫЦЬЦЁ

давялося мне праходзіць праз баптысцкую царкву ў Менску… ішоў, расьцягваў час, трэба было пракрочыць два прыпынкі перад сустрэчай… накропваў дождж… я, занурыўшыся ў свае думкі, на аўтамаце дастаў з кішэні тэлефон і пачаў чытаць новае паведамленьне ў вайбэры… спыніўся. стаю. не магу разглядзець на вільготным экране ані слова.

раптам хтосьці дакрануўся да майго пляча.

і тут я разгубіўся – перада мною мужчына, падобны да тых, каго клічуць «чоткі пацан».

– слышь, Иисус любит тебя!

– и тебя любит, – адказаў я, а сам як у тумане…

далей я прасачыў, як ён накіраваўся ў царкву. заданьне прапаведніка на першы тыдзень выканана.

## КАМАНДЗІРОЎКІ

сёньня я гутарыў з чалавекам, ад якога не чакаў ніякіх адкрыцьцяў... але яна мне распавяла, што ўжо пяты год запар зьяжджае кожныя тры месяцы ў камандзіроўку, якой насамрэч не існуе... яна адкладае са свайго заробку грошы, а потым выдаткоўвае іх на самотнае падарожжа... на тыдзень... яна сказала, што бяз гэтых «камандзіровак» даўно б разышлася з мужам і, можа быць, нават пакінула б яму дзьвюх дачок... яна, калі застаецца зь імі на доўгі тэрмін, ператвараецца ў сьцерву, нэрвовую маці... а ёй іх шкада... вось так яна і прыдумала: як мага часьцей па магчымасьці зьяжджаць у «камандзіроўкі» – доўгія шпацыры па эўрапейскіх вуліцах лекуюць.

# МАБІЛЬНЫЯ

сёньня зь Л. мы спазьніліся ў кіно.

я завязаў матузкі і сеў перад выхадам праверыць сваю вайсковую вёску на мабільным... Л. яшчэ толькі апранала джынсы.

Л. заўважыла, што я вырашыў перад выхадам пагуляць на мабільным, і вырашыла павіншаваць сяброўку ў фэйсбуку.

калі я скончыў гуляцца, заўважыў што Л. піша ў мабільным, таму вырашыў, пакуль яе чакаю, запосьціць новае фота ў інстаграм...

Л., у сваю чаргу, павіншавала сяброўку і, паглядзеўшы, што я ў інстаграме, адкрыла «вконтакте» і пачала чытаць новыя паведамленьні.

і вось ён, вечар, мы зьбіраліся ў кіно... а замест гэтага сядзім перад уваходнымі дзьвярыма, і толькі нашыя твары сьвецяцца белым ад экранаў.

# ЕЛКІ

у мяне ёсьць лецішча... ну як лецішча – дзьве набытыя дзялкі зямлі, аб'яднаныя напаўжывой агароджай. дванаццаць сотак... лецішча спатрэбілася для хворай мамы... езьдзіць на прыроду... поўнач Беларусі.

мамы ня стала, але я ежджу туды, каб касіць газон і весьці маналёг.

два гады таму я пасадзіў там дзьве маленькія елкі, дэкаратыўныя, канадзкія. елачкі пухнатыя і больш як на мэтар у вышыню не растуць.

быў на лецішчы днямі. елкі хтосьці выкапаў... не чапалі высокую тую, ядловец і стланік.

я глядзеў на дзьве ямкі ад елак і думаў, што яны ня будуць расьці на новым месцы – яны былі пасаджаныя для мамы.

# РЭНТГЕН

упершыню ў жыцьці зрабіў УГД жывата... як вынік – пячонка, падстраўнікавая залоза, ныркі... усё трэба лячыць і распачынаць дыету...

пасьля таго як я зазірнуў сам у сябе і, зрабіўшы шэраг іншых працэдур, паглядзеў на свой страўнік знутры, і нават зрабіўшы рэнтген шкілета, я заўважыў, што пачаў зусім па-іншаму глядзець на людзей. калі раней я прыдумляў ім гісторыі, ацаніўшы звонку адзеньне і заўважыўшы характэрныя рысы паводзінаў і мімікі, то цяпер я пачаў разглядаць іх нібы знутры...

вось вельмі тоўстая жанчына – пячонка, страўнік і мо яшчэ камяні ў нырках.

вось мужчына крыху поўны, але чырванатвары – ціск... сэрца...

вось хлопец ідзе і курыць... лёгкія... крывя па венах кепская ходзіць.

# КОМПЛЕКСЫ

сачу за дзьвюма асобамі.

першая – бахваліцца сваёй ёгай і посьціць свае аголеныя фота.

другі – выкладае артыкулы пра тое, што ў барodах мужчын знайшлі бактэрыі, ідэнтычныя бактэрыям у прамой кішцы, і што структура валасоў барады супадае са структурай валасоў паміж нагамі.

абодва пруцца, што веганы, і ня проста «пруцца» – яны стараюцца папулярызаваць гэта, але даносяць інфармацыю так, быццам яны неверагодна ўзьнёслыя і чыстыя, і астатнім да іх далёка...

ён – хударлявы, з глыбокімі залысінамі, але адрасьціў бедны тонкі хвост, і на падбародзьдзі добра калі тузін валаскоў зможа прабіцца, яна – прыгожая, але праз тыповыя ёга-аголеныя фота прыніжае сябе і веганства.

# ПРАЦА

прыехаў дамоў запозна, хацелася толькі аднаго – легчы спаць, але я пайшоў гуляць з сабакам.

завіталі ў краму, набылі віна і піцу...

па вяртаньні дамоў я нарэшце распрануўся, скінуўшы зь сябе гэтыя мокрыя анучы – лета выдалася сьпякотным і зацягнутым...

як ёсьць, аголены, накіраваўся на кухню, каб адкаркаваць віно.

ідучы па калідоры, пачаў разважаць пра сваё жыцьцё, пра лёс, працу... і незаўважна для сябе вярнуўся з кухні ў пакой і апрануўся: майткі, джынсы, кашуля, шкарпэткі... нават завязаў матузкі на кедах і, узяўшы ў рукі ключы ад уваходных дзьвярэй, раптоўна ўсьвядоміў, што а дванаццатай ночы зноў сабраўся ехаць на працу.

# СУП

прыяжджала днямі сяброўка, распавяла, што была на лецішчы ў сваёй былой аднагрупніцы.

тая аднагрупніца нейкім чынам удала выйшла замуж за вельмі багатага турка, нарадзіла яму трох хлопчыкаў і яны разышліся ў розныя бакі. ён – зь дзецьмі, яна – з грашыма.

– і вось уяві, сябра, – кажа мне Л. – яна, якая ў жыцьці толькі здолела выйсьці замуж і адхапіць тоўсты куш... варыць супы на вадзе Evian.

– што?!

– я сур’ёзна... яна такая: «сёньня будзе мая фірмовая салянка!» – і адправіла свайго кіроўцу, які ляжаў у гамаку, па дваццаць бутэлек Evian у менскую «Карону»!

## РЭФРЭН

камень, ліст, нязнойдзеныя дзьверы, пра камень, пра ліст, пра дзьверы… едзеш так на ровары – і рэфрэнам гучыць першы сказ з раману Томаса Вулфа… як паэзія… як марш… як пункт адліку… дыхаеш роўна, круціш пэдалі… і толькі пасьпяваеш глядзець у розныя бакі, каб не сутыкнуцца зь мінакамі…

і раптам кіроўца ў чорнай машыне, які не глядзіць па бакох, выяжджаючы з двара, зьбівае цябе, парушаючы гэты ладны рытм… і ты ляціш праз машыну, робячы сальта… успамінаючы ўсе ўрокі па дзюдо, як правільна групавацца.

устаеш, аглядаеш сябе, ровар… глядзіш на мінакоў… рытм… дзе ж ён, гэты грэбаны рытм?

падыходзіш да машыны, б’еш кіроўцу па твары… вяртаесься да ровара… сядаеш і едзеш далей…

камень, ліст, нязнойдзеныя дзьверы, пра камень, пра ліст, пра дзьверы…

# СУМКА

вось ён ідзе, такі статны, стомлены, на ягоным плячы – цяжкая спартовая сумка... што там? форма хакеіста? футбаліста? яна сьвежая ці ўся набрынялая потам?

а можа, у гэтай неверагоднай сумцы – велічэзны аўтамат і два кілаграмы тратылу... і вось я такі выкрываю тэракт!? божухна! гэта ж геройства... я адразу стану неверагодна багатым і вядомым! можа быць, нават сэлебрыці!

а калі там які мех бульбы ўсяго толькі? эх... тады будзе сумна...

я адчуваю, як з кожным ягоным крокам у мой бок у кроў дазуюцца порцыі адрэналіну... пот халодзіць сьпіну... як жа гэта прыемна! гэтая моц! улада!

«Здравствуйте, пожалуйста, пройдите со мной на проверку багажа! Кладите на ленту. Пройдите через металлоискатель».

# ТАНЕЦ

былі ў клюбе. кактэйлі на шнапсе. моцны тытунь. музыка. шматлюдна, цёпла і вільготна… нават горача.

назіраў, як танчыла мая сяброўка. танчыла з хлопцам, якога я ня ведаю, але ўжо ненавіджу.

я заўважыў, як падчас таго, як яе кружылі, нахілялі назад, моцна і адначасова далікатна трымалі за талію… гэты мужчынскі позірк, гэты бляск у яе вачах…

а яна, у сваю чаргу, расчырванелая, з раскудлачанымі даўгімі валасамі, уся адданая рытму, балянсу цела, блізкасьці подыху… назіраць за гэтым было адначасова зачараваньнем і болем, бо я разумеў, што часам лепей, калі табе здрадзяць у ложку.

## ВАЛАСЫ

я люблю хадзіць стрыгчыся ў барбэршоп.

сяджу ў крэсьле, побач са мною стрыжэцца мужчына, якога я адразу заўважыў, калі той увайшоў, бо ён быў у сінім пінжаку з залатымі клюбнымі гузікамі, а такое ў Менску – рэдкасьць.

мужчына стрыжэцца і п’е амэрыкана, а валасы туды з галавы сыплюцца, як апалае лісьце. у кубку ўжо больш зрэзаных валасоў, чым той кавы.

мужчына працягвае піць і нават жаваць.

майстар мужчыну:

– мо новую каву?

– а не, усё добра, гэта ж мае валасы, сваё...

і тут нават клюбны брытанскі пінжак яго ня выратаваў.

## КІРМАШ

Вэнтспілс, Латвія.

вырашылі самі прыгатаваць вячэру, каб адбылася стоадсоткавая аўтэнтыфікацыя зь мясцовымі…

на наступны дзень раніцай на мясцовым кірмашы, сярод латкоў садавіны і гародніны, вырашылі набыць фасолю і таматы ў невыразнай жанчыны.

нам палічылі 2.99 эўра, і мы на аўтамаце пакрочылі далей.

мінула гадзіна, калі мы падлічылі, што нас падманулі на два эўра, бо вага фасолі і таматаў была па 200 гр, а з нас узялі як за два кілаграмы.

стала сумна, адчуваць сябе мясцовымі больш не хацелася, я яшчэ ўзгадаў, што прадавачка тая была ўся нейкая брудная і незадаволеная.

шчасьлівым і багатым на дробным махлярстве ніколі ня будзеш.

# ЕЖА

Рыга, гатэль, раніца, швэдзкі стол.

шматлюдна, замежнікі, рана прачнуўшыся на сваіх камандзіроўках, адзін за адным крочаць вакол сталоў зь ежаю... тут і яечня, і вараныя яйкі, бэкон, сардэлькі, хлябы і хлябцы, шынка, сыр цьвёрды і зь белай цьвільлю... садавіна, гародніна... процьма сокаў і рознага печыва, дзесяць відаў гарбаты і сокавыціскалка.

адна кітаянка, узяўшы велічэзную талерку рознакаляровай ежы, з горкаю, села за стол і за тры хвіліны ўсё зьела. акуратна ў сурвэтку адрыгнула і накіравалася па ежу.

узяла другім заходам такую ж талерку і зьела.

потым кітаянка ўзяла трэцюю талерку, на якой былі вэнджаныя таматы, тры кавалачкі дыні і мёд...

і я зразумеў, што без буліміі тут не абышлося.

# КАНТЭЙНЭР

на чыгунцы ў Рызе, у залі захоўваньня багажу, ёсьць мэталічныя кантэйнэры, у якіх за 2 эўра роўна на суткі можна пакінуць валізу.

такімі кантэйнэрамі часта карыстаюцца гандляры наркотыкамі: пакідаюць тавар пасьля таго, як атрымаюць ключ з нумарам ад кантэйнэра, дзе ляжаць грошы.

але гэтым разам, калі паклаў сваю валізу, я заўважыў, як на дзьверцы суседняга кантэйнэра чырвоным сьвяціліся лічбы: дзевяноста чатыры эўра, а гэта значыцца, што хтосьці, пакінуўшы тут свае рэчы, ужо сорак сем дзён не вяртаецца па іх.

я адразу чамусьці падумаў пра самае горшае, што магло здарыцца.

цікава, праз колькі часу кантэйнэр адчыняць працаўнікі чыгункі?

# АПЛАТА

раніца, прыпынак, я счакаў, калі спыніцца тралейбус, зайшоў у першыя адчыненыя дзьверы.

кінуў заплечнік, ухапіўся за поручні, паехаў...

еду, назіраю, як сонца гуляе па вокнах і як навокал незвычайна прыгожа і цёпла, і пачынаю разважаць пра глябальнае пацяпленьне, пра тое, што і яно можа быць такім жа прыгожым, але сьмяротным...

мо апавяданьне пра гэта напісаць?

як раптам з адтуліны для квіткоў высунулася лысая галава ў сонечных акулярах і як закрычыць:

– эй, ты, плати за проезд, в первые двери зашел, наглый такой! да?

– я, эммм, зьбіраўся плаціць, вы спакойней! я задумаўся...

– знаю я такіх, задумчывых!

і што тут патлумачыш?

# ГЕНДЭР

упершыню ў жыцьці атрымаў заўвагу ад сваёй жанчыны, што занадта шырока сяджу ў вагоне мэтро.

зашмат развальваюся, ногі ў розныя бакі...

ня ведаў нават, што адказаць ёй.

я так сяджу, бо зразумела, што зьвесьці ногі мне замінае тое, што ў мяне паміж ног...

пачалі гутарыць пра гэта, і высьветлілася, што яе гэта заўжды засмучала сярод мужчын.

працягнулі гутарку, і высьветлілася, што, у прынцыпе, добра было б мне ня толькі ногі стульваць, але пачаць пісаць седзячы на ўнітазе, бо калі я падымаю сядзеньне, дык потым яго не апускаю, а попай шлёпацца на халодны белы ўнітаз – непрыемна.

чамусьці выпраўляцца мушу толькі я.

# ФІКУС

я выпадкова ўбачыў яго ў бары.

ён быў ростам каля сямідзесяці сантымэтраў, і яго выкарыстоўвалі ў якасьці падпоркі для прамежкавых уваходных дзьвярэй да ліфтаў. на ім было паўтара лістка. адзін вялікі і жоўта-чырвоны, а другі напалову абарваны, але яшчэ зялёны. фікус выглядаў закатаваным і ўсім сваім станам прасіў у мяне дапамогі, расставіўшы ў розныя бакі свае паўтара ліста.

спачатку я яго паліваў кожны тыдзень, калі прыходзіў піць у гэты бар, пакуль не заўважыў трэці ліст.

счакаўшы, калі бармэн будзе заняты, я скраў расьліну.

цяпер фікус ростам мне па грудзі, абраслы, як куст, і зялёны, як елка.

## ДАЛЬНАБОЙНІК

паводле працы ў мяне шмат камандзіровак. кіроўца звычайна забірае мяне раніцай, і мы ў дарозе ад трох да шасьці гадзін.

за гэты час я пасьпяваю ня толькі паспаць, у дарозе ў мяне пачынаюць адчыняцца дзьверы ў космас, я паглыбляюся ў думках да такой ступені, што становіцца жахліва жыць.

я разумею, што магу давесьці сябе да глыбокай дэпрэсіі, калі своечасова не спынюся.

мой жа кіроўца – як камень, глядзіць на дарогу, проста, спакойна, нічога яго не кранае.

быць дальнабойнікам – значыць ня мець сумневаў, ніякага ўнутранага сьвету... ня думаць, ня марыць, не разважаць... толькі ехаць восем гадзін, потым спаць і потым ізноў ехаць.

## КОСМАС

пазнаёміўся зь дзяўчынкай Стасяй. унікальнае дзяўчо, са сваім незвычайным сьветапоглядам, яшчэ не сапсаваным школай... бо школа будзе праз год.

Стася чытае, шмат разважае і можа за хвіліну прыдумаць гульню... любую, у залежнасьці ад таго, хочаш ты актыўны ўдзел прымаць ці валяцца на канапе.

у Стасі ўнікальны сьпіс таго, што яна любіць, а што не, і рэчаў, якія яна паставіла пасярод двух сьпісаў.

Л. паказвае дзяўчынцы фота, дзе я з галавою накрыты сплю, літаральна падобны да меху бульбы, а побач наш сабачка.

Стася: а чаму ты дома – мех бульбы, а ў нас – чалавек? табе падабаецца так жыць?

## КРАДЗЯЖЫ

гутарыў з жанчынай, якая працуе ў краме. у невялічкай крамцы ў цэнтры Менску.

яна распавядала, што цяпер, падчас сьвятаў, утрая павысілася колькасьць крадзяжоў.

крадуць усё і ўсе.

асабліва шмат крадуць кіўбас, кансэрваў, запакаваную вэтчыну, маленькія бутэлькі алькаголю.

самае трагічнае – шмат крадуць пэнсіянэры... кажа мне жанчына... ахоўнік бачыць, але часта не зьвяртае ўвагі, калі гэта стары дзед ці бабуля.

ахоўнік ловіць толькі моладзь і алькаголікаў.

алькаголікаў не шкадуе, бывае і ў твар заедзе, а з моладзьдзю ён часта не пасьпявае разабрацца – шпарка бегаюць хлопцы.

на днях ахоўніка звольнілі, бо дырэктарка крамы ўласнымі вачыма бачыла, як старая запіхвала ў торбу хлеб, і ніхто яе не спыніў.

# ДЗЕВЯНОСТЫЯ

раён – Заслаўская-Танка.

самым галоўным у жыцьці былі дзьве рэчы: «чароўны куфэрак Мілкі Ўэй» і сетка відэапракату «К-відэа».

здаецца, мы жылі тымі імгненьнямі, калі дарослыя адпраўлялі нас памяняць відэакасэту на новы фільм з даплатай і калі знаходзіліся грошы набыць куфэрак, у якім галоўным была нават не шакалядка, але тузін кубікаў канструктару Лега.

яскравы ўспамін: перадновагодня дні, пах мандарынаў, я, малы, стаю ў відэапракаце ў краме «Юбілейны-92», мяняю бацькоўскі баявік на «Караля льва», а потым крочу на касу і набываю сабе «чароўны куфэрак», першы і адзіны ў жыцьці, ад якога застанецца ў мяне да гэтага часу жоўтая палоска Лега і маленькі сіні кубік.

## СЬВЯТЛО

калі мы з братам сталі юнакамі, нас было вельмі цяжка ўтрымаць дома, таму мы часта вярталіся з вуліцы, калі мама ўжо спала, ну як спала, чакала нас з заплюшчанымі вачыма ў ложку, на кухні пакінуўшы цьмянае сьвятло таршэра. бо сьвятло гарыць у нашай кватэры да апошняга, хто вернецца.

бывае, ідзеш летняй ноччу, здалёк бачыш сьвятло і ведаеш: цябе чакае мама.

калі яе ня стала і ўсе разьехаліся, я гэты таршэр не выключаю больш ніколі... я вяртаюся ў пустую кватэру, іду па двары і здалёк бачу сьвятло на кухні, і так цёпла становіцца... мама заўсёды чакае... але апошнія гады чакаю яе я.

## ПАЗНОГЦІ

у маёй мамы былі самыя прыгожыя рукі, тонкія, далікатныя, мяккія... а пазногці былі неверагодна прыгожыя, вытанчаныя. рукі, створаныя для музыкі.

я вельмі падобны да мамы: форма твару, колер скуры і ў чымсьці целасклад, я крыху поўны... у нас зь ёй адрозныя вочы, валасы і погляды на жыцьцё.

але самым каштоўным у мяне ад мамы былі пазногці. яна любіла прыкласьці да маёй далоні сваю і паказаць, наколькі пазногці ў нас зь ёй аднолькавыя...

ня так даўно адзін з пазногцяў пачаў пакрывацца псарыязам... і я пачаў катастрафічна й няўмольна губляць значную частку сваёй мамы ўва мне.

# СТЫХІЯ

Лагойск, з гарналыжнага спуску вытанчана, хутка і неверагодна прыгожа на сноўбордзе едзе ў чырвоным касьцюме мужчына.

ён спускаецца лёгка, прафэсійна, быццам пад яго нагамі ня дошка і сьнег, але аблокі.

я зьнерухомеў і чакаў, калі ён спыніцца каля пункту адпачынку…

яшчэ колькі паваротаў – і сноўбардзіст рэзкім рухам спыняецца, перад сабой падняўшы слуп сьнегу, які бліскуча пад сонечнымі промнямі ападае.

мужчына зьняў шлем, адшпіліў сноўборд і, зрабіўшы колькі крокаў, узяў у старой жанчыны палку, адзеў акуляры, і толькі цяпер я пабачыў, наколькі ён стары і кульгавы, наколькі яму цяжка перасоўвацца бяз сноўборда…

я падумаў, што абавязкова буду такім жа дзедам у будучыні.

# СЬЦЕНЫ

мой родны квадратурынавы маёнтак, мае пашыраныя сьцены, адмысловая ізаляцыя на сялібе, усе спробы скараціць свае тэксты да неверагодных памераў давялі мяне да кропкі, да такой жаданай кропкі, якая пачынае новае адмярэньне часу, бо сёньня раніцай я прачнуўся і выявіў, што адна са сьценак, на якую я часьцей наносіў квадратурынавую мазь, папросту перастала пашырацца і расьці вонкі, яна зруйнавалася, я гляджу на старую цэглу, на трухлявае дрэва – і разумею, што сьцяна зруйнавалася з паўночнага боку і што мне варта было б апранууцца і пайсьці ў гэты бок... ня ведаю, што будзе далей, але ведаю, чаго далей ня будзе.

# ТАКСІ

за дзень было два пералёты, і я апынуўся на паўночнай высьпе а восьмай вечара.

маленькі аэрапорт... я выйшаў на вуліцу ў пошуках таксі. за пятнаццаць сэкунд мяне наскрозь прадзьмуў балтыйскі вецер. да гэтага я больш-менш быў гатовы, але да таго, што ня будзе ніводнага таксі, я гатовы ня быў.

каб не акалець, пачаў падскокваць каля тэлефона-аўтамата, на якім было напісана «выклік таксі». ён не працаваў...

вярнуўся ўнутр памяшканьня... да мяне падышлі тры дзяўчыны, прыгожыя, сьветлыя, нардычныя, і паклікалі ехаць разам у горад.

я падумаў пра тое, што гэта і ёсьць кампэнсацыя за адсутнасьць таксі і скразны вецер, але з прыбіральні выйшла іх старая маці і за хвіліну выклікала мне асобнае таксі.

# ДЗЕД

сяджу на кухні гасьцявога дома для пісьменнікаў на балтыйскай высьпе. вакол вокнаў пачынае хадзіць стары мужчына, кепска апрануты, няголены, я такіх адразу цураюся.

ён пачынае грукаць у шыбу і жэстыкуляваць мне, я ў паніцы... няўжо і тут могуць нахабна прасіць грошай ці цыгарэт?!

мая хата з краю!

кажу паэту зь Літвы, што тут хтосьці непрыемны да нас лезе.

паэт адчыняе дзьверы незнаёмцу, шчыра і з усьмешкаю.

стары кажа, што ў суседнім доме, дзе ўсе мы жывем у пакоях, на першым паверсе спрэс адчынены наросхрыст вокны... маўляў, вы, замежнікі, расслабіліся, нельга так, павыкрадаюць усё!

хвалюецца стары сусед... а мне сорамна.

# ФІЛЬМ

распавядае жанчына, швэдка, восемдзесят шэсьць год, выглядае прыўкрасна, арыстакратычная пастава, тонкія рукі і пранізьлівы позірк.

вырашылі мы з мужам паглядзець «Паўсталых мерцьвякоў», клясыка сямідзясятых. ніколі да гэтага часу не глядзелі. на сярэдзіне фільма мужу (дзевяноста год) схапіла сэрца. выклікалі хуткую...

праз тры дні вырашылі дагледзець фільм, але зноў сэрца ў мужа. едзем у хуткай у бальніцу... муж мне кажа: «дарагая, думаю, ня трэба нам дагледаць гэты фільм».

ведаеце, у маладосьці мы не дагледалі фільмы праз жарсьць і нястрымнае каханьне, а цяпер, у старым веку, мы таксама не дагледаем да канца фільмы. але ў кожнага ўзросту свае мэты.

# ЦУД

калі табе за два дні да адʼезду гатэль блякуе карткі, дык здаецца, што выйсьця ўжо не знайсьці… наяўнасьць нідзе ніхто ня прыме без папярэдняй аплаты.

мінае першы дзень, калі ты сутаргава пераглядаеш усе варыянты навокал, але беспасьпяхова.

і на наступны, апошні дзень застаецца толькі адзінае – зьвярнуцца па дапамогу да Бога.

і праз гадзіну ты ўжо ведаеш, да каго скіравацца наконт жытла ў іншай краіне, і нават знаходзіш кантакты ў сацсетцы, і пакуль ты пішаш гэтаму чалавеку, Бог адпраўляе яму з працы ліст пра тэрміновую камандзіроўку.

і табе пакідаюць кватэру, каб жыць, – і ўсё гэта за колькі гадзін да вылету твайго самалёта.

## СЫНДРОМ

Стакгольм – гэта жыцьцё, якога раней у цябе не было. гэты горад пужае і прываблівае, абветрывае твар і лашчыць промнямі сонца.

гэты горад разам з тваёй жанчынай стварае атмасфэру сям’і, якую так хочацца захаваць. і вось, здавалася б, ты толькі пачаў тут жыць, для вас знайшлася тая кватэра, якую ты бачыў у самых каляровых сьненьнях, але трэба зьбірацца. надышоў час зьяжджаць.

мы ўжо бяз мапы знаходзім патрэбныя лініі мэтро, у нас мінакі пытаюцца, як прайсьці да патрэбнай адрэсы. але мы бярэм квіткі ў адзін бок на хуткасны экспрэс да аэрапорта Арланда.

мы вернемся, абавязкова, праз два гады… дай мне сваю руку.

## СЯБРЫ

у швэдаў ёсьць неверагодна прывабная традыцыя для старых сяброў, нават скажам так – старажытных сяброў. калі яны дамаўляюцца сустрэцца паводле нейкай гадавіны ці сьвята ў бары альбо рэстарацыі, то абавязкова прыходзяць у адпаведных галаўных уборах, якія маюць свой колер, форму і ўпрыгожаньне. у бары на выходных я сустрэў адразу цэлую кампанію жанчын каля пяцідзесяці, іх было шасьцёра і ўсе былі ў чырвоных бэрэтах з пер’ем паўліна, вароны і мудрагелістым вышытым узорам, у дадатак у іх былі розныя значкі: адзін у падтрымку хворых на СНІД і некалькі іншых, для мяне не знаёмых.

я запытаўся ў адной, што яны сьвяткуюць, на што мне адказалі:

– радасьць жыцьця і сяброўства.

## САБАЧКА

у маіх сяброў ёсьць дзьве прыўкрасныя дачкі. абедзьве яшчэ з маленства прасілі цягам некалькіх год, каб бацькі падаравалі ім сабачку. але кожным разам сутыкаліся з жорсткаю адмоваю, без аніякіх перамоваў.

мінула колькі год, як дзяўчаты, здавалася б, зьмірыліся з тым, што ў іх ня будзе сабачкі…

калі дзяўчаты пайшлі ў школу, яны назьбіралі школьных грошай на тое, каб набыць ашыйнік, павадок і месца для сабачкі, а таксама сухога корму.

цяпер у куточку ў пакоі ёсьць месца для сабачкі, ежу якому дзяўчаты мяняюць кожны дзень.

іх тата сказаў мне неяк, што лепей бы яны патрабавалі шчанюка, як раней, чым вось гэты маўклівы рытуал.

## МОГІЛКІ

паехалі на выспу Фор’ё. знайшлі месца, дзе пахаваны Бэргман. здаецца, тут кожны з нас хацеў бы адпачываць пасьля ўсіх нястрымных жыцьцёвых падзеяў. усё сьціпла, усё дзеля таго, каб была магчымасьць затрымацца, паразважаць, паслухаць мора.

пасьля сьмерці Інгмара прах яго жонкі Інгрыд перавезьлі са стакгольмскіх могілак і пахавалі побач зь ім.

каля магілкі Бэргманаў ёсьць палянка дзесяць мэтраў на пяць, агароджаная кустамі. на гэтай палянцы з 1990-га захоўваюць попел памерлых і адбіваюць іх імёны на агульным камні... калі паглядзець на гэта з боку мастацтва – такі сабе пэрформанс агульнай магілы для швэдаў.

# СЫМБАЛІ

трапіць у сапраўдны дом, дзе жыў Бергман… летні дом, які зьяўляецца яго маёмасьцю з канца 60-х і цяпер напалову рэзыдэнцыяй для творцаў, напалову музэем, дзе захаваліся ўсе ягоныя рэчы: фатэль, сталы, печ, кінапакой з калекцыяй відэакасэт, адпачывальня, пакой для мэдытацыі, і ўсё гэта зь велізарнымі вокнамі зь відам на мора.

рэзыдэнты маюць права ўсім карыстацца. я гутарыў з Ітанай, маладой рэжысэркай, якая тут піша новы фільм… яна кожны дзень плача ў атачэньні рэчаў свайго любімага рэжысэра.

у доме ёсьць дзьверы, на якіх Бергман адзначаў маркерам даты прыездаў, найбольш для яго шчасьлівыя… чырвоным маркерам ён маляваў альбо сэрца, альбо капэрту, альбо сэрца са стралой, і толькі 1996-ы перакрэсьлены і больш ні дат, ні сэрцаў – год пасьля сьмерці Інгрыд.

## ІСЬЛЯНДЗЕЦ

сьнедаю зь ісьляндзкім перакладчыкам.

мяне заўжды цягнула наведаць Ісьляндыю. гэты дзіўны ледавік… гэты вулькан… радзіму эксперымэнтальнай музыкі і нобэлеўскага ляўрэата па літаратуры… краіну з насельніцтвам крыху болей за трыста тысяч чалавек, якая вабіць сваёй казачнасьцю, іншым позіркам на жыцьцё і філязофію існаваньня.

Хэгі Мар Бардасан распавядае:

у мяне няма дому, як ва ўсіх. пяць год таму я выбраў для сябе вольнае жыцьцё. сёньня я жыву ў Вісбю, потым буду тыдзень у Нарвэгіі, а потым у Празе два месяцы. я жыву дзеля шчасьця і нічога не пляную далей за тыдзень. жыву перакладамі. мне дастаткова.

# СТАЧКОМ

з бацькам у мяне мала камунікацыі, асабліва пасьля таго, як ня стала мамы.

ён пачаў рэдка наведваць Мінск, паглыбіўся ў працу ў Маскве ў МАЗаўскім філіяле, і то добра – менш пачаў піць...

месяц таму ён прыехаў і распавёў, што быў тым самым чалавекам, які падняў мазаўскіх рабочых... пачатак дзевяностых...

бацька стаяў недалёка ад Клінтана, калі той прыяжджаў і выступаў...

усё магло ў іх атрымацца, ён сказаў, што яны дайшлі да плошчы і іх было звышшмат. а далей што рабіць? не было каму кіраваць. так усё і сьціхла.

майго бацьку тады на заводзе празвалі стачкомам... ён стварыў незалежны прафсаюз.

я абавязкова зраблю зь ім інтэрвію.

## РУКАВІЧКА

на другі дзень шпацыру па балтыйскім узьбярэжжы ў Вісбю я заўважыў на галінцы дрэва побач з дарогаю для ровараў і бегуноў чырвоную рукавічку, дзіцячую. узгадаў, што ня толькі беларускія дзеткі любяць губляць іх, і пакрочыў далей.

праз тры дні я выпадкова натрапіў на тую самую рукавічку ў абсалютна супрацьлеглым месцы, прыкладна ў кілямэтры ад першай сустрэчы зь ёю. рукавічка ляжала на лаўцы.

праз два тыдні я на ровары паехаў за чатыры кілямэтры ад Вісбю – глядзець на старыя скальныя пароды, і знайшоў чырвоную рукавічку на грамадзкім мангале, побач з зачыненымі палямі для міні-гольфу.

хто, навошта, чаму такія розныя дыстанцыі і месцы?

## FATUM

на пачатку нулявых мы з пацанамі расклейвалі па Менску налепкі «За Свабоду», «Другого», «Джынсавая рэвалюцыя».

старэйшымі хадзілі на Плошчу... аднаго з нашых забралі тады з намёту, накідалі вакол месцаў шпрыцаў... сьмешна і балюча... я праспаў тую ноч, быў вельмі стомлены... смс раніцай прыйшла: «мяне забралі».

потым быў год, калі я назіраў за падзеямі зь Нямеччыны, было сумна і няёмка перад сваімі, што я ня там.

я напісаў тады артыкул пра тэракт у мэтро для швайцарскага журналіста...

цяпер я назіраю Дзень Волі са Швэцыі і разумею, што я нічога са сваімі кулакамі там не зраблю, але ў маіх руках ёсьць слова. гэта сапраўдная зброя.

## КОТКА

у Вісбю, на галоўнай гандлёвай плошчы ў старым горадзе, аточаным сьцяной, ёсьць невялікая скульптурка – котка ў натуральную велічыню, якая грэецца на сонцы, падаткнуўшы пад сябе лапкі і прымружыўшы вочкі. котка гэтая знаходзіцца каля крамы, старых кавярняў і бараў. усе мясцовыя, калі на лаўках грэюцца на сонцы, любяць кранацца гэтай скульптуркі, дзеці яе гладзяць.

я даведаўся, што на гэтай плошчы доўгі час жыла котка, якая прыходзіла ў любую кавярню ці краму і, як гаспадыня, адпачывала, ласьцілася да мінакоў.

пасьля яе сьмерці жыхары Вісбю паставілі помнічак як напамін пра яе і яе любоў да гэтага месца й людзей.

## ВОКНЫ

амаль ніводны дом тут, у Вісбю, не занавешвае свае вокны. жыхары нічога не хаваюць і нічога й нікога не саромеюцца.

мне дастаткова нават проста пастаяць на ганку пісьменьніцкага дома, пакурыць, павольна папіць гарбаты і паназіраць...

у суседнім доме суткамі не выключаецца тэлевізар.

у доме побач, на першым паверсе, на кухні, звычайна гатуе вячэру альбо мужчына ў адных майтках, альбо жанчына. аголеная... толькі фартух на целе, каб не запэцкацца.

у доме, што далей па вуліцы, каля вакна сядзіць старая, і часам на падваконьні каля яе адпачывае котка.

у такія адчыненыя вокны вольна зазірае сонца, у такія адчыненыя форткі завітвае балтыйскі вецер.

## НЕ-ІСНАВАНЬНЕ

у пісьменьніцкім доме пішуць каля ўвахода на чорнай дошцы крэйдай, хто ў якім пакоі жыве.

яшчэ два тыдні таму мы ўсе зьвярнулі ўвагу, што ў пустым пакоі зьявіўся жыхар з ініцыяламі K.G.A.

усе ўзрадаваліся – на наступны дзень можна ўбачыцца з навічком!

мінула тры дні, нікому на вока навічок ня трапіўся.

праз тыдзень усе ўжо пагуглілі і даведаліся, што гэта перакладніца з Македоніі. стала вядома, як яна выглядае!

мінуў яшчэ тыдзень – цішыня.

праверылі звонку – сьвятло ўвечары гарыць.

за 12 дзён K.G.A. ніводнага разу ня выйшла з пакоя.

а сёньня яе імя ўжо сьцерлі з дошкі.

# ЖАБРАЧКІ

швэдзкае жабрацтва мае іншы фармат, не зусім традыцыйны.

на вуліцах сядзяць на цёплых пледавых подыюмах поўныя вясёлыя жанчыны ў хустках, усе падобныя да цыганак ці мо бежанцаў з Сырыі. яны ўсьміхаюцца кожнаму мінаку і вітаюць яго, хэй-хэй, запытваюцца пра справы, падымаюць вышэй кардонавы кубачак з-пад кавы. людзі вітаюцца зь імі, некаторыя спыняюцца запытацца пра справы і кінуць колькі манэтаў.

усё выглядае як звычайная праца, а ня пошук міласьціны.

я назіраў, як у адной жабрачкі скончыўся працоўны час, яна склала ўсе свае пледы, дастала айфон, набрала кагосьці, і па размове я зразумеў, што сёньняшні дзень у яе надта ўдалы.

# НЕМЕЦ

мне пашчасьціла ў Вісбю пазнаёміцца зь немцам, перакладчыкам (на той час ён змагаўся з Томам Соерам).

прыязны мужчына, з тонкім пачуцьцём гумару, аматар выпіць, сямідзесяці васьмі гадовы Крысьціян ніяк ня быў падобны да старога чалавека.

мы зь ім шмат гутарылі, пілі сухое белае, і ў адзін зь вечароў я адважыўся параіцца наконт таго, што перажываю трагедыю – развод, і гэта была мая ініцыятыва, і я сябе адчуваю здраднікам, злым чалавекам...

Крысьціян выслухаў і сказаў, што ён цяпер сам у працэсе разводу, і ён пражыў у шлюбе трыццаць год, і добра, што я раней вырашыўся, да таго як сям’я скацілася да нянавісьці.

# ГРОШЫ

апошнім часам я прывучаю сябе ня браць з сабой грошы ў горад ці на працу.

раней я панікаваў, калі высьвятляў, што пасярод дня ў маіх кішэнях мала наяўных.

такое было адчуваньне, быццам я бездапаможны.

на кожны свой дзень я падрыхтоўваў пэўную суму, якая мяне суцяшала, пакоячыся ў скураным гаманцы.

я адмовіўся ад гэтай звычкі і адразу выявіў, што перастаў рабіць пустыя пакупкі кшталту шкарпэтак, чыпсаў, марозіва, піва й непатрэбнай драбязы... і ўвогуле я зразумеў, што можна абсалютна лёгка абыходзіцца бяз грошай, бо яны па-сапраўднаму патрэбныя бываюць ня так часта, як мы да гэтага звыклі.

## VIETA

месца, Шпунька, наша Вільня пасярод плошчы.

бегчы пад дажджом за пяць хвілін да закрыцьця продажу алькаголю… піць на вуліцы замест кавы ў кубку лікёр 999.

круціць цыгарэты з сырога тытуню.

цалавацца доўга і няспынна.

ня думаць, не разважаць, а проста дыхаць адно адным, шукаць цацкі, кружляць невядомымі аўтобусамі вакол ікеі ды старацца схапіць у аб'ектыў самалёты, якія цяжкімі жыватамі драпаюць дахі дамоў.

піць у бары, калі ён чатыры гадзіны як зачыніўся, але для мясцовых гэта ня сэнс. напівацца зь яшчэ больш п'яным бармэнам.

не запіваць.

у гатэлі спаць аголенымі і горача абдымацца, а на раніцу крышыць у ложак амлетам і пакідаць адмеціны кавы побач з плямамі каханьня.

*сьнежань 2014 – травень 2017*
*Менск – Вэнтспілс – Вісбю – Вільня*

